# БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ

BELARUSIAN ABROAD
BIEŁARUS NA ČUŽYNIE

Беларускі штомесячнік ў Лёндане. Заснаваны ў 1947 г. Адноўлены ў 2009 г.

люты 2010 №3 (45)

## НАВІНЫ

### Адбыўся агульны сход Англа-беларускага таварыства

У суботу 30 студзеня ў Лёндане адбыўся штогадовы зьезд Англа-беларускага таварыства. Была абраная рада арганізацыі. Склад рады застаўся амаль той самы, што й год таму. Таксама былі абмеркаваныя заплянаваныя на гэты год падзеі, сярод якіх Дзень матчынай мовы (27 лютага), канцэрт Браэна Бэнэта, былога брытанскага амбасадара ў Беларусі (24 красавіка), сьвяткаваньне 600-х угодкаў Грунвальдзкай бітвы і лекцыя пра блогінг у Беларусі. Прадметам гарачай дыскусіі стала прапанова прызначэньня прэзыдэнта таварыства – ганаровай пасады, якую ў мінулым традыцыйна займалі добра вядомыя і ўплывовыя асобы. Канчатковага рашэньня не было прынята і пытаньне было вернута радзе для далейшага абмеркаваньня. Таксама гучалі прапановы зьмяніць назву арганізацыі для таго, каб яна адлюстроўвала свой дэ-факта брытанскі, а ня толькі ангельскі, характар.

// паводле belarusians.co.uk

### Сустрэча PUBB

У пачатку лютага ў Лёндане адбылася другая сустрэча Зьвяза беларускіх прафэсіяналаў Брытаніі (Professionals' Union of Belarusians in Britain, PUBB), які мае на мэце мацаваць дзелавыя і сацыяльныя кантакты паміж маладымі беларусамі ў Вялікай Брытаніі.

### Неўзабаве скончыцца рамонт Беларускага дому

«Беларускі дом», сядзіба Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі на Penn Road у Islington, хутка ізноў адчыніць дзьверы пасьля рамонту. Верагодна, што ўжо сьвяткаваньне Дня волі адбудзецца там, паведаміў Павал Шаўцоў, сябра Ўправы ЗБВБ.

### Выйшла новая кніга Арнольда Макміліна

У выдавецтве *Maney Publishing* у Лідс выйшла кніга Арнольда Макміліна *Writing In A Cold Climate: Belarusian Literature From The 1970s To The Present Day* («Пісаць у халодным клімаце: Беларуская літаратура ад 1970-х да сёньняшняга дня»). Аўтар – найбольш значны англамоўны літаратуразнаўца, які дасьледуе беларускую літаратуру.

Кніга налічвае больш за 1100 старонак і ахоплівае прозу, і драматургію і паэзію, Паэзія, паводле аўтара працягвае дамінаваць у беларускай літаратуры як і стагодзьдзе перад тым,. 170-ці аўтарам прысьвечаныя асобныя артыкулы, а Рыгору Барадуліну, Адаму Глобусу, Анатолю Сысу, Уладзіміру Някляеву, Уладзімеру Арлову і Алесю Разанаву – даўжэйшыя разьдзелы. Таварыствы «Тутэйшыя» і «Бум-бам-літ» вылучаныя ў асобныя разьдзелы, гэтак жа як і аўтары з Полацку, Гародні й Гомеля (разьдзел «Літаратура па-за мэтраполіяй»).

Кнігу можна замовіць праз Amazon, поўная цана – £75.

Урачыстая прэзэнтацыя кнігі адбудзецца 25 лютага а 17.30 у Masaryk Room, floor 4, SSEES, 16 Taviton St, London WC1H 0BW.

// паводле belarusians.co.uk

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ

### Фотавыстава «Беларус Замежны»

Калі: з 13/02/2010 па 13/04/2010

Дзе: Беларускі рэлігійна-культурны цэнтар, 39 Holden Road, London N12 8HS

Фотавыстава "Беларус Замежны", арганізаваная Сашай Белавокай, Аленай Агарэлышавай і Беларускаю бібліятэкай і музэем імя Францішка Скарыны, – гэта спроба зьяднаць сучасных і былых эмігрантаў праз народнае адзеньне. Традыцыйнае адзеньне складаецца з элемэнтаў, якія маюць асаблівы культурны сэнс і зьвязаны з пэўнымі падзеямі і каштоўнасьцямі нацыі. Менавіта таму нацыянальны касьцюм захоўваецца непаўторным на працягу стагодзьдзяў і завецца часам летапісам народа. Нездарма людзі, якія пакідалі бацькаўшчыну, як адно з самых каштоўных бралі з сабою нацыянальную вопратку.

### Дзень матчынай мовы ў Лёндане

Калі: 27/02/2010, 14:00

Дзе: Беларускі рэлігійна-культурны цэнтар, 39 Holden Road, London N12 8HS

Англа-беларускае таварыства запрашае на сьвяткаваньне Дня матчынай мовы. А 2 гадзіне пачнецца сьвята для дзяцей да 13 гадоў. А 3 гадзіне для дарослых адбудзецца конкурс чытаньне беларускай паэзіі. Вельмі вітаецца прынясеньне з сабою ежы і пітва для агульнага фуршэту. У праграме таксама абмеркаваньне новага рамана В. Марціновіча «Паранойя». Плянуецца ўдзел жадаючых у агульнанацыянальнай беларускай дыктоўцы.

### Сумесны прагляд хакея Беларусь-Швэцыя

Калі: 19/02/2010, 20:00

PUBB (Professionals' Union of Belarusians in Britain) ладзіць сумесны прагляд хакейнай гульні Беларусь-Швэцыя ў адным з пабаў у цэнтры Лёндана. Па дадатковую інфармацыю зьвяртайцеся ў рэдакцыю **БНЧ**.

**РЭДАКЦЫЯ**

Алесь Чайчыц alexander@cajcyc.org
Яраслаў Крывой
а. Сяргей Стасевіч

## АБВЕСТКІ

### Беларускія набажэнствы

Беларускія грэка-каталіцкія набажэнствы адбываюцца ў Беларускім рэлігійна-культурны ў нядзелю – а 10:30 раніцы і штодня а 8:00 і 18:00. Па заканчэньні нядзельнага набажэнства – невялікае беларускае чаепіцьце. Усе жадаючыя сардэчна запрашаюцца.

Беларускія праваслаўныя набажэнствы адбываюцца па папярэдняй дамоўленасьці па адрасе Holy Innocents' Church, Paddenswick Road, London W6 0UB (м. Ravenscourt Park). Кантакт: 020 76099982 (сп-ня Алена Сенька).

### Шукаецца рэгент для беларускага хору

Існуе ініцыятыва з прыкладна шасьці чалавек стварыць у Лёндане беларускі хор. Шукаем адзінадумцаў і чалавека з музычнай адукацыяй, які мог бы быць кіраўніком хору. Просім кантактаваць з рэдакцыяй **БНЧ**.

## КАРЫСНЫЯ РЭСУРСЫ

belarusians.co.uk – "Беларусы ў Вялікабрытаніі", інфармацыйны блёг

skaryna.org - Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане

anglobelarus.org.uk - Англа-беларускае таварыства

groups.google.com/group/Belondon - Рассылка для беларусаў у Лёндане

community.livejournal.com/belorusy_uk - Суполка брытанскіх беларусаў у ЖЖ

belarusdigest.com - Belarus Digest, дайджэст беларускіх навінаў у міжнароднай прэсе, вядзецца беларусамі зь Лёндану і ЗША

Суполкі на Facebook: *Anglo-Belarusian Society, Belarusians in the UK*

Суполка на Вконтакте.ru: *Belarusians in the UK ‡ Беларусы ў Вялікабрытаніі* (vkontakte.ru/club14078415 )